наша
# СВАБОДА

№101(188) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

17 ВЕРАСНЯ 2001 года ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

тэл. 228-69-18, 210-02-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ



# Беларусь падзяляе смутак народа ЗША

14 верасня ў касцёле святых Сымона і Алены, што на плошчы Незалежнасці ў Мінску, адбылася жалобная імша ў памяць аб ахвярах тэрарыстычных актаў у ЗША. Гадзіну смутку правялі людзі і на плошчы Свабоды ў Мінску. Улады, аднак, занялі нейкую незразумелую пазіцыю. Аляксандр Лукашэнка меў намер 13 верасня наведаць дыпламатычную місію ЗША для выказвання спачуванняў у сувязі з тэрарыстычнымі актамі, якія пацягнулі беспрэцэдэнтныя чалавечыя ахвяры. Кіраўнік беларускай дзяржавы меўся зрабіць запіс у кнізе спачуванняў.

Прыбыўшыя загадзя работнікі службы пратакола прэзідэнта заявілі, што Лукашэнку ў ліку іншых асобаў будуць суправаджаць тэлевізійная здымачная група і фатографы. Дыпламаты растлумачылі, што пасольства — гэта асобая тэрыторыя і здымкі тут не дапускаюцца. Пасля таго, як гэта было паведамлена Лукашэнку, яго картэж, паводле звестак супрацоўніка дыпламатычнай місіі, развярнуўся ў непасрэднай блізкасці ад комплексу пасольства і паехаў назад.

Пасол ЗША Майкл Козак, які ў 18.20 наведаў мемарыяльную акцыю грамадскасці Мінска каля Свята-Духава кафедральнага сабора, у адказ на пытанні журналістаў адмовіўся каменціраваць тое, што адбылося.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**


Фота Ул.ШЛАПАКА

# Назіранне адбылося

Гэтым тыднем грамадзянская ініцыятыва «Незалежнае назіранне» абнародуе вынікі назірання за прэзідэнцкімі выбарамі, зробленыя на аснове афіцыйных копіяў пратаколаў, атрыманых з выбарчых камісіяў. Трэба падкрэсліць, што назіральнікі атрымалі копіі пратаколаў са значным спазненнем і ўжо «прычэсаныя», таму выніковыя лічбы выклікаюць пэўныя сумненні ў каардынатараў «Незалежнага назірання». Запозненае абвяшчэнне вынікаў галасавання, а таксама прамое процідзеянне выбарчых камісіяў у выдачы лічбаў наглядальнікам сталіся прычынай таго, што «Незалежнае назіранне» не здолела абвясціць вынікі назірання за кампаніяй раніцой 10 верасня, як планавалася; гэта, са свайго боку, выклікала да жыцця шматлікія абвінавачанні на адрас незалежнага назірання ў дрэннай арганізацыі кампаніі.

З гэтых абвінавачанняў і пачалася гутарка НАШАЙ СВАБОДЫ з сукаардынатарам «Незалежнага назірання» Мечыславам Грыбам, які, нягледзячы на вайну, аб'яўленую назіральнікам уладамі, упэўнены, што «назіранне ўсё-такі адбылося».

***— Кіраўніцтва «Незалежнага назірання» ўжо заявіла, што не можа ні пацвердзіць, ні абвергнуць вынікі прэзідэнцкіх выбараў, якія даводзіць Цэнтрвыбаркам. Ці азначае гэта, што незалежнае назіранне за выбарамі пацярпела поўны крах? Ва ўсякім выпадку, такія ацэнкі ўжо раздаюцца.***

— Па-першае, многія палітыкі, грамадскія дзеячы зараз да нас прад'яўляюць нейкія прэтэнзіі – як быццам «Незалежнае назіранне» павінна было пацвердзіць ці абвергнуць вынікі Цэнтральнай выбарчай камісіі. Гэта ў нашыя мэты ніколі не ўваходзіла, гэта не наша місія. Мы павінны былі сачыць – незалежна, як выконваецца беларускае заканадаўства па правядзенні гэтых выбараў праз сваіх назіральнікаў, і потым даць звесткі, якія мы атрымалі.

*Заканчэнне на стар.3*

# Гадавіна знікнення

16 верасня спаўнілася два гады з часу знікнення выконваючага абавязкі старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання Віктара Ганчара і бізнесмена Анатоля Красоўскага.

Апошні раз іх бачылі ў лазні на вуліцы Фабрычнай у Мінску, увечары 16 верасня 1999 года. Па ўскосных звестках, яны былі скрадзеныя адразу пасля выхаду на вуліцу. Бясследна знік і аўтамабіль «Джып-Чэрокі», на якім перамяшчаліся Ганчар і Красоўскі.

Незадоўга да прэзідэнцкіх выбараў у беларускім друку з'явілася інфармацыя аб існаванні так званых «эскадронаў смерці», у склад якіх уваходзілі супрацоўнікі праваахоўных органаў. Менавіта яны быццам бы маюць дачыненне да выкрадання і забойства Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага і былога міністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранкі.

Як заявіла ў інтэрв'ю БелаПАН жонка Ганчара Зінаіда Ганчар, на працягу двух гадоў «улада нават не спрабуе стварыць ілюзію пошуку тых, хто знік». «Я перакананая, што гэта было выкраданне — выкраданне чалавека, які, на мой погляд, быў галоўным апанентам рэжыму Лукашэнкі. Я спадзяюся, што Віктар жывы,



што рука таго, каму даручылі забойства, усё ж задрыжала. Зараз, пасля выбараў, усё залежыць ад пазіцыі грамадства. Увесь гэты час я варушыла ўлады, патрабуючы правесці расследаванне і паведаміць поўную і праўдзівую інфармацыю аб тым, што здарылася. Але аднаму гэтага нельга дамагчыся. І ўсё ж злачынцы павінны ведаць: «заўтра» наступіць для кожнага з іх, праз пяць, праз дзесяць гадоў, але наступіць абавязкова», — сказала Зінаіда Ганчар.

Жонка выконваючага абавязкі старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі 13-га склікання мае намер прыняць удзел у акцыі «Ланцуг неабыякавых людзей», якая павінна адбыцца ўвечары 17 верасня каля рэзідэнцыі беларускага прэзідэнта.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

# Оппозицию будут выводить в коридоры

*Приход в администрацию профессиональных контрразведчиков обещает для всех большие перспективы.*

Пока самым большим сюрпризом после выборов остается не то, что лидеры оппозиции никуда не исчезли, а незамедлительно начавшаяся ротация кадров в высших эшелонах власти. Администрацию президента возглавил Урал Латыпов. Как и его первый заместитель Станислав Князев, он служил в КГБ по так называемой второй линии — контрразведка. В этом, можно считать, и все отличие от нынешней российской власти, где к власти пришли профессионалы из первой линии — внешняя разведка. Ну разве что еще, так это то, что у них, кроме воинских, имеются научные звания. И Латыпов, и Князев — профессора. Можно еще отметить, что в предвыборный период и белорусская оппозиция обогатилась таким профессиональным контрразведчиком, как генерал Валерий Кез. Кстати, сменил его в свое время на должности шефа военной контрразведки нынешний первый заместитель руководителя администрации президента Станислав Князев. По мнению наблюдателей, в исходе первых и вторых президентских выборов в Беларуси заметную, если не сказать решающую роль сыграли именно контрразведчики. Они снабжали нужной для себя информацией всех.

Если вспомнить трудовой путь нового руководителя администрации президента Урала Латыпова, пройденный за семь лет президентской власти в Беларуси, то можно отметить его личный творческий вклад в укрепление таких структур, как МИД и аппарат Совета безопасности. В частности, период его руководства внешнеполитическим ведомством ознаменовался одной игрой под названием «демократические коридоры». Суть ее заключалась в том, чтобы с помощью некоторых неправительственных организаций и мыслительных центров прорвать внешнеполитическую блокаду, в которую вогнал себя режим. В неформальных беседах с дипломатами, главным образом происходивших в ресторане «Раковский бровар», разные мыслители и штатные оппозиционеры сеяли иллюзии о возможной либерализации режима. И коечто удалось. В немалой степени с помощью мифического «демократического коридора» главе государства удалось осенью 1999 года попасть на Стамбульский саммит ОБСЕ. После этого, если кто помнит, коридорная тема материализовалась в так называемый общественно-политический диалог, который завершился монологом. А все обязательства, взятые от имени Беларуси на этом саммите, стали представителями правящего режима трактоваться по-своему. Приоритетом для них оставалось и остается наспех скроенное национальное законодательство. Как известно, верховенство в нем принадлежит президентским указам и декретам. Интересно, что авторство пресловутому декрету №8, перекрывшему гуманитарную помощь Беларуси, приписывают Уралу Латыпову. А о приоритете международного права над национальными законами стало как-то для белорусских чиновников говорить вслух неприлично. И вот после последних президентских выборов для Беларуси встал вопрос — что дальше?

Судя по последним заявлениям госдепартамента США и Европейского Союза, с победой на президентских выборах Лукашенко мировое сообщество поздравлять не спешит. Очевидно, что из-за такого неоднозначного отношения, будучи игроком азартным, Лукашенко и решил быстренько привлечь в свою администрацию профессиональных контрразведчиков, сумевших без лишнего шума «усыпить» широкую оппозиционную коалицию. Шумовую завесу на выборах осуществляли политруки и их трубадуры. Теперь же, по некоторым данным, профессора госбезопасности могут затеять для активной общественности и Запада вторую серию игры в «демократические коридоры». Цель все та же — сделать своего правителя выездным. Но прежде, надо полагать, в хорошем темпе и целенаправленно будет осуществлена кадровая перестройка всей вертикали власти. Ей необходима «свежая кровь».

*Окончание на стр.3*

## Ва ўрадзе чакаюцца перастаноўкі

Віцэ-прэм'ер, міністр замежных справаў Беларусі Міхаіл Хвастоў паведаміў, што бліжэйшым часам ва ўрадзе чакаюцца кадравыя перастаноўкі. Змены адбудуцца ўслед за ракіроўкамі ў адміністрацыі прэзідэнта. Паводле М.Хвастова, гэта трэба для выканання выбарчай праграмы А.Лукашэнкі.

## Літва салідарная з Еўрасаюзам

Літва далучылася да заявы Еўрапейскага Саюза аб прэзідэнцкіх выбарах у Беларусі, у якой гаворыцца, што выбары праведзеныя з парушэннямі правілаў і нормаў АБСЕ. Паводле заявы Еўрасаюза, «развіццё дачыненняў з Беларуссю залежыць ад павагі да правоў чалавека і працэсу дэмакратызацыі».

## Падаражэлі нафтапрадукты

З 14 верасня ў Беларусі на 4,7% і 7,7% падвысіліся кошты на дызельнае паліва і мазут. 1 літр дызельнага паліва на аўтазапраўках канцэрна «Белнафтахім» будзе каштаваць 440 рублёў, а тона мазута — 153 тысячы рублёў. Прычына — павышэнне цаны на расійскую нафту.

## Кошты растуць стабільна

Паводле дадзеных міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, за першы тыдзень верасня рост спажывецкіх коштаў у нашай краіне склаў 0,4%. За першы тыдзень жніўня яны таксама ўзраслі на 0,4%. Усяго ад пачатку года спажывецкія кошты ў Беларусі павялічыліся на 25,9%.

## Конкурс імя Ежы Гедройца

Польскі інстытут у Мінску аб'явіў другі конкурс імя Ежы Гедройца для беларускіх журналістаў. На яго прымаюцца артыкулы, тэле- і радыёперадачы, якія выйшлі цягам 2001 года на тэму беларуска-польскіх узаемаадносінаў у галіне культуры, навукі і літаратуры. Цырымонія ўзнагароджання пераможцаў конкурсу адбудзецца ў канцы студзеня 2002 года.

## Чакаем «Мілан»

Матч 1/64 фіналу Кубка УЕФА па футболе паміж барысаўскім БАТЭ і італьянскім «Міланам» адбудзецца 20 верасня на мінскім стадыёне «Дынама». Нагадаем, гэтая сустрэча павінна была прайсці 13 верасня, аднак усе матчы Кубка УЕФА былі перанесеныя на больш позднія тэрміны з-за тэрарыстычных актаў у ЗША. Набытыя заўзятарамі квіткі яшчэ на матч з датай 13 верасня сапраўдныя.

## НАДВОР'Е




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**
**1500**

РЭХА

## Дэмакраты будуць дзейнічаць талакой

14 верасня ў Мінску адбылося чарговае паседжанне Савета шырокай грамадзянскай кааліцыі, якая ствараецца на аснове палітычнага савета пры штабе адзінага дэмакратычнага кандыдата ў прэзідэнты Беларусі Уладзіміра Ганчарыка. Удзельнікі паседжання абмеркавалі далейшыя захады па ўмацаванні кааліцыі, а таксама яе рэгламент. У гэтым дакуменце падкрэсліваецца пераемнасць мэтаў і задачаў, якія ставіў перад сабой палітсавет пры выбарчым штабе Уладзіміра Ганчарыка. За палітычную аснову ўзятае пагадненне паміж адзіным кандыдатам і шырокай грамадзянскай кааліцыяй.

Найбольшыя спрэчкі на паседжанні выклікаў пункт рэгламенту аб механізме прыняцця рашэнняў. Пасля працяглага абмеркавання ўдзельнікі сышліся на тым, што кворум для прыняцця рашэнняў павінен складаць тры чвэрці ад спісачнага складу. Рашэнне ж прымаецца, калі за яго прагаласавала не менш як дзве трэція часткі прысутных. Дарэчы, гэты пункт рэгламенту так і не быў прыняты.

На паседжанні Савета таксама абмяркоўвалася прапанова назваць шырокую грамадзянскую кааліцыю «Талака», аднак не атрымала аднадушнага ўхвалення і гэтае пытанне застаецца адкрытым. Абмеркаванне дэталяў рэгламенту, сімволікі і іншых пытанняў прапанавана ўнесці ў партыі і грамадскія арганізацыі, якія ўваходзяць у кааліцыю.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

## Раскоша таксі

14 верасня ўступіла ў сілу пастанова міністэрства транспарту і камунікацыяў, якой у Беларусі зноў павышаныя тарыфы на перавозку пасажыраў легкавымі таксі.

Цяпер кошт аднаго кіламетра прабегу і пасадкі ў таксі ў дзённы час (з 6 да 22 гадзінаў) складае 310 рублёў (было 295), адной гадзіны прастою пры ўключаным таксометры – 3.100 рублёў (раней – 2.950 рублёў). У начны час (з 22 да 6 гадзінаў) кіламетр прабегу і пасадка ў таксі абыдуцца пасажыру ў 465 рублёў (было 440 рублёў), а за гадзіну начнога прастою пры ўключаным таксометры цяпер прыйдзецца выкласці 4.650 (было 4.400 рублёў). Кошт аднаго заказу таксі складзе 300 рублёў.

Папярэдняе павышэнне тарыфаў на перавозку пасажыраў легкавымі таксі адбылося ў канцы красавіка.

**Аляксей АРЭШКА**

## Журналісты скардзяцца на Глушакова

Беларуская асацыяцыя журналістаў (БАЖ) звярнулася ў Пракуратуру Беларусі з просьбай тэрмінова спыніць парушэнне правоў незалежных выданняў, а таксама прыцягнуць да адказнасці першага намесніка старшыні Дзяржкамітэта па друку Уладзіміра Глушакова, які адначасова выконвае абавязкі дырэктара прыватнай друкарні «Мэджык» і «ўзяў на сябе функцыі цэнзара».

Аб гэтым гаворыцца ў заяве БАЖ, распаўсюджанай 14 верасня.

У Беларускую асацыяцыю журналістаў, гаворыцца ў заяве, звярнуліся галоўныя рэдактары газет «Народная воля» — Іосіф Сярэдзіч, «Беларуская маладзёжная» — Таццяна Мельнічук, «Рабочы» — Віктар Івашкевіч і «Предпринимательской газеты» — Глеб Багамолаў. Яны паведамілі, што першы намеснік старшыні Дзяржкамдруку Уладзімір Глушакоў спрабуе выконваць функцыі цэнзара і ўмешваецца ў дзейнасць выданняў.

У сваёй заяве ў пракуратуру БАЖ разглядае дзеянні першага намесніка Дзяржкамдруку як парушэнне патрабаванняў Канстытуцыі і закона «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі». У прыватнасці, артыкул 33 Канстытуцыі гарантуе кожнаму свабоду думак, перакананняў і вольнае іх выказванне. Цэнзура, як указваецца ў гэтым артыкуле, не дапускаецца.

БАЖ заяўляе: «Згодна з артыкулам 48 Закона аб друку, дзеянні Глушакова ёсць уціск на свабоду масавай інфармацыі, што цягне за сабой дысцыплінарную, адміністрацыйную, крымінальную адказнасць адпаведна з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь».

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

## Дыктатары – часовыя. Беларусь – вечная

«Прэзідэнцкія выбары ў Беларусі 9 верасня 2001 года яшчэ раз прадэманстравалі антыдэмакратычны характар сучаснага беларускага рэжыму», – гаворыцца ў заяве, з якой выступіла старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонка Сурвілла. – «Аляксандар Лукашэнка дамогся «перамогі» метадам: манапольнага кантролю над дзяржаўнымі сродкамі масавай інфармацыі, фізічнае расправы з палітычнымі апанентамі, запалохвання выбаршчыкаў праз дзяржаўных чыноўнікаў і сваіх «вертыкальшчыкаў», паліцэйскага і адміністрацыйнага пераследу прыхільнікаў кандыдата ад дэмакратычнай апазіцыі, недапушчання назіральнікаў у шмат якіх выпадках да выбарчых месцаў і фальсіфікацыі галасоў».

Рада БНР заклікала грамадзянаў Беларусі не паслабляць працы на карысць адраджэння і ўмацавання беларускай нацыянальнай дзяржаўнасці. Як гаворыцца ў заяве, гістарычна справа адбудовы беларускай дэмакратычнай дзяржаўнасці зараз знаходзіцца на вышэйшым узроўні, чым у мінулыя перыяды: «значыцца, як пісаў вялікі Янка Купала, «не загіне Край Забраны, покуль будуць людзі». Беларусь пакутуе, Беларусь змагаецца, Беларусь працуе на будучыню. Дыктатары – часовыя, Беларусь – вечная».

**Алесь КНЯЗЮК**

БІЗНЕС

## Паляпшаюць імідж

Бліжэйшым часам у Беларусі істотна зменіцца заканадаўства ў адносінах да малога і сярэдняга бізнесу. Такую заяву зрабіў міністр прадпрымальніцтва і інвестыцыяў Беларусі Анатоль Скорбеж 14 верасня падчас правядзення рэспубліканскай відэаканферэнцыі ў рамках праекта Міжнароднай фінансавай карпарацыі «Роля СМІ ў стварэнні станоўчага іміджу беларускага бізнесу».

Міністр адзначыў, што «новыя прапановы істотным чынам зменяць абстаноўку». Ён не стаў дэталёва спыняцца на маючых адбыцца рэформах у заканадаўстве, але заўважыў, што значна спросціцца працэдура рэгістрацыі і ліквідацыі прадпрыемстваў, зменіцца падатковае заканадаўства. Усё гэта, на яго думку, будзе садзейнічаць развіццю бізнесу ў Беларусі і прыцягненню інвестыцыяў у эканоміку краіны.

Што да стварэння станоўчага іміджу прадпрымальніка, то, як адзначыў міністр, «мы бачым, што нам трэба фарміраваць імідж, і накіроўваем прадпрымальнікаў на тое, каб яны таксама на гэта не забываліся». «Пакуль прадпрымальнік будзе ўспрымацца як рвач, хапуга, цяжка будзе працаваць», — лічыць Анатоль Скорбеж.

Удзел у відэаканферэнцыі прынялі таксама кіраўнік прадстаўніцтва Сусветнага банка ў Беларусі Сяргей Кулік, старшыня Мінскага абласнога камітэта прадпрымальніцтва і інвестыцыяў Уладзімір Жагула, прадстаўнікі аблвыканкамаў і саюзаў прадпрымальнікаў Беларусі.

**БелаПАН**

ЛЮСТРАФАКТ

## Платны пад'езд да бясплатнай медыцыны

Фота IREX/ProMedia

Установка шлагбаўма пры арганізацыі платнага ўезду на тэрыторыю радзільні па вуліцы Бельскага ў Мінску. Ноу-хау мінскіх уладаў: прыехаў за сваім немаўляткам на машыне – пакладзі грошыкі ў радыкюльчык вартаўніка.

СОЦЫУМ

## Дзяржаўных праграмаў паболее

Савет міністраў Рэспублікі Беларусь пастанавіў дапоўніць пералік з 18-ці асоба важных дзяржаўных праграмаў на гэты год яшчэ трыма. Гэта дзяржаўныя навукова-тэхнічныя праграмы па стварэнні і асваенні ў рэспубліцы вытворчасці новых пакаленняў канкурэнтаздольнай аўтатрактарнай тэхнікі («Белаўтатрактарабудаванне») і новых мадэляў прэцызіённага аўтаматызаванага канкурэнтаздольнага металаапрацоўчага абсталявання і інструмента павышанай устойлівасці і прадукцыйнасці («Станкі і інструмент») на 2001-2005 гады, а таксама дзяржаўная праграма развіцця і павышэння эфектыўнасці працы мікраэлектроннай галіны Беларусі на 2001-2010 гады.

У названы пералік, зацверджаны пастановай Савета міністраў краіны ад 28 красавіка 2001 года № 632 «Аб мерах па рэалізацыі дэкрэта прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 27 лютага 2001 года № 6», раней былі ўключаныя дзве прэзідэнцкія праграмы «Бытавая электроніка» і «Дзеці Беларусі», дзяржаўная праграма па пераадоленні наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС да 2010 года, дзяржаўная праграма «Якасць», рэспубліканскія праграмы па развіцці птушкагадоўлі, «Лён», «Інфарматызацыя сістэмы адукацыі» і іншыя. У пералік таксама ўваходзяць сумесныя беларуска-расійскія праграмы па развіцці вытворчасці тэлеапаратуры, інтэгральных мікрасхемаў для апаратуры спецыяльнага і двайнога прымянення, дызельнага аўтамабілебудавання.

**Вольга ПАЛОНСКАЯ**

## Нелегалы не прайшлі

23 афганцы, якія былі затрыманыя брэсцкімі памежнікамі, выдвараныя за межы Беларусі.

Як паведаміў кіраўнік прэсслужбы Брэсцкай пагрангрупы Дзмітрый Дзевятаў, грамадзяне Афганістана мелі намер нелегальна перасекчы беларуска-польскую мяжу. Мяркуючы па ўсім, яны дакладна падрыхтаваліся да аперацыі. У рэжымную зону да вёскі Агароднікі Брэсцкага раёна іх падвёз мікрааўтобус, потым афганцы падрыхтавалі ўсё неабходнае, у тым ліку гумавую лодку, каб пераправіцца цераз Буг. Аднак тут яны былі затрыманыя і змешчаныя ў следчы ізалятар. Паколькі гэтыя людзі ўпершыню прадпрынялі спробу перасячэння беларускай дзяржаўнай мяжы, суд прыняў рашэнне выдварыць іх за межы рэспублікі.

Падобныя затрыманні на брэсцкім участку беларускай мяжы нярэдкія.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

АДУКАЦЫЯ

## Пратэст супраць закрыцця ліцэя

14 верасня міністру адукацыі Беларусі Васілю Стражаву накіраваны ліст, у якім выказваецца пратэст супраць закрыцця Светлагорскага філіяла Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа.

Нагадаем, што загад аб закрыцці філіяла ліцэя быў выдадзены 11 верасня. Згодна з гэтым дакументам, усе ліцэісты пераводзяцца ў школу № 1 Светлагорска, а адзін з будынкаў навучальнай установы перадаецца Дому дзіцячай і тэхнічнай творчасці. У загадзе ўсё гэта падаецца як «рэарганізацыя навучальнай установы». Аднак, па неафіцыйнай версіі, прычынай для закрыцця філіяла ліцэя стала арганізаваная там сустрэча з няўгоднымі ўладам пісьменнікам Уладзімірам Арловым, а таксама бардамі Зміцерам Бартосікам і Вольгай Цярэшчанка.

Ліст на імя міністра адукацыі падпісалі 16 бацькоў ліцэістаў, якія навучаюцца ў Светлагорскім філіяле. Яны прапаноўваюць Васілю Стражаву пераўтварыць ліцэй у гарадскі Беларускі гуманітарны ліцэй.

**Марат ГАРАВЫ**

## Беларуска-шведскі адукацыйны праект

Беларускі нацыянальны маладзёжны савет «Рада» сумесна з нацыянальным маладзёжным саветам Швецыі ў кастрычніку 2001 года пачынаюць рэалізацыю новага адукацыйнага праекта «*Wake-up!*».

Мэтай праекта з'яўляецца забеспячэнне арганізацыйнага развіцця беларускіх няўрадавых арганізацыяў.

Праект разлічаны на два гады, на працягу якіх плануецца правядзенне трэнінгаў і інфармацыйных дзён.

Меркаваныя тэмы інфармацыйных дзён: менеджмент чалавечых рэсурсаў, арганізацыйная культура недзяржаўных грамадскіх арганізацыяў, работа з валанцёрамі, устойлівае развіццё недзяржаўных грамадскіх арганізацыяў, інфармацыйны менеджмент, лабіраванне інтарэсаў недзяржаўных грамадскіх арганізацыяў, маладзёжная палітыка.

**Аляксей АРЭШКА**

## Скасаваны «чарнобыльскі» ўказ

15 верасня страціў сілу ўказ прэзідэнта Беларусі «Аб дадатковых мерах па ўзмацненні сацыяльнай абароны грамадзянаў, пацярпелых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС», прыняты 20 кастрычніка 1999 года. Гэта прадугледжанае новым указам кіраўніка дзяржавы, апублікаваным 15 верасня.

Як адзначаецца ў афіцыйным каментарыі, неабходнасць адмены ўказа ад 20 кастрычніка 1999 года абумоўленая тым, што льгота, прадугледжаная ім, уключаная ў артыкул 25 закона «Аб сацыяльнай абароне грамадзянаў, пацярпелых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС». Размова ідзе аб праве грамадзянаў, якія жывуць у сельскіх населеных пунктах, размешчаных у зоне пражывання з перыядычным радыяцыйным кантролем, на бясплатнае ўтрыманне дзяцей у дзіцячых дашкольных установах.

**Наталля КУЛАГІНА**



МЕРКАВАННЕ

## Беларусь не павінна заставацца ізгоем

Тэрарыстычныя акты ў Нью-Йорку і Вашынгтоне ставяць перад многімі краінамі, у тым ліку і перад Беларуссю, праблему абароны сваёй жыццёвай прасторы ад тэрарыстаў, і можа ўзнікнуць жаданне вырашыць гэтую праблему стварэннем сістэмы таталітарнага кантролю над усім грамадствам. Такое меркаванне ў гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН выказаў вядомы палітолаг, выконваючы абавязкі прэзідэнта Беларускага саюза прадпрымальнікаў (БСП) Аляксандр Патупа.

Кіраўнік БСП лічыць, што стварэнне такой сістэмы, калі кожны крок любога чалавека кантралюецца, уявіла б сабой сур'ёзную пагрозу дэмакратыі і дэмакратычным пераўтварэнням. «Чалавецтва, — сказаў ён, — павінна вырашыць задачу выбару аптымальнага ўзроўню свабоды». На яго думку, ЗША, нягледзячы на трагічныя падзеі, што там адбыліся, па-ранейшаму будуць «імкнуцца да таго, каб Беларусь трапіла ў генеральны паток сусветнага развіцця, стала б членам сусветнай супольнасці — менавіта таму, што тэрарызм будзе існаваць, пакуль існуюць краіны-ізгоі, не ўцягнутыя ў працэс інтэграцыі». Захад імкнецца стварыць сусветную праваахоўную сістэму, пры якой стануць немагчымыя войны. Калі Беларусь будзе супрацьдзейнічаць гэтаму — не будзе імкнуцца ствараць грамадзянскую супольнасць, будзе перашкаджаць развіццю дэмакратычных інстытутаў, — «яна загіне як суб'ект міжнароднага права», — адзначыў Аляксандр Патупа.

**Мікалай ГРАЧУХА**

## Каня не выпусцілі за мяжу

Брэсцкія мытнікі не дазволілі выехаць за межы Беларусі расійскаму аўтамабілю з канём, які з'яўляецца прызёрам шматлікіх спаборніцтваў.

Аўтамабіль з жывёлай быў затрыманы ў пачатку гэтага тыдня ў пункце пропуску «Казловічы» мытні «Заходні Буг». Конь па мянушцы Падход з'яўляецца прызёрам розных спаборніцтваў, у тым ліку прызёрам чэмпіянату Еўропы 1999 года, удзельнікам фіналу Кубка свету і прызёрам Алімпійскіх гульняў 2000 года ў Сіднеі. Ягоны кошт, як мяркуюць эксперты, складае сотні тысяч долараў ЗША. У расійскіх праваахоўных органаў ёсць падставы меркаваць, што вываз каня ў адну з заходніх краінаў быў незаконным.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

# Назіранне адбылося

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

А ўжо на падставе гэтага нехта мог рабіць нейкія вынікі – пацвердзіць гэтыя звесткі альбо абвергнуць іх. Мы не кантралюем Цэнтрвыбаркам, не абвяргаем іх і не пацвярджаем – мы даем толькі тое, што адбылося. Мы даводзім: дзе, якія парушэнні адбываліся, а пасля ўжо адпаведныя органы мусяць рашаць, наколькі масавымі былі парушэнні і наколькі істотна яны паўплывалі на выбары. Нехта з хворай галавы ці з занадта здаровай хоча ўсё перакласці на назіральнікаў.

У цэлым я хацеў бы сказаць наступнае. Мы падрыхтавалі ў гэтым годзе 16 тысячаў грамадзянаў Беларусі, якія выказалі жаданне назіраць за выбарамі. Калі настаў час іх рэгістрацыі ва ўчастковых выбарчых камісіях, мы зрабілі ўсё, каб іх зарэгістраваць. Але мясцовыя ўлады пачалі пераслед гэтых людзей: пагрозы, звальненні... Апынуўшыся ў такім становішчы, частка людзей адмовілася ад гэтага, і нам удалося з 16 тысячаў назіральнікаў зарэгістраваць толькі 12 тысячаў. Але гэтага таксама было дастаткова – Беларусь ніколі не мела такіх лічбаў. І ўлада гэта добра разумела – яна пайшла на тое, каб праз Цэнтрвыбаркам яшчэ больш скараціць колькасць назіральнікаў, якія былі зарэгістраваныя ва ўчастковых камісіях. За дзень да выбараў ЦВК заклікаў на сваё пасяджэнне кіраўніцтва праваабарончага цэнтра «Вясна» і пад рознымі надуманымі прычынамі забараніла членам «Вясны» ўдзел у незалежным назіранні. Такім чынам мы пазбавіліся яшчэ дзвюх тысячаў назіральнікаў. Але і гэтага ім падалося мала; вечарам ЦВК зноў правяла пасяджэнне, на якім пазбавіла акрэдытацыі прадстаўнікоў Фонду імя Льва Сапегі – яшчэ тысячу назіральнікаў. Такім чынам, у нас засталося каля 9 тысячаў назіральнікаў. Але ўладам і гэтага паказалася мала; яны зрабілі ўсё, каб назіральнікі не маглі дзейнічаць у адпаведнасці з беларускім заканадаўствам. У першую чаргу назіральнікам катэгарычна не давалі звесткі, не паказвалі спісы, колькі прагаласавала датэрмінова – з гэтага зрабілі вялікі сакрэт. Па-другое, гэтыя спісы не былі вывешаныя на выбарчых участках, нават у Мінску іх ніхто не бачыў. Па-трэцяе, назіральнікаў садзілі настолькі далёка ад стала камісіі, што яны мала што маглі бачыць. Акрамя таго, калі пачаўся падлік галасоў, назіральнікаў не дапускалі да стала, каб яны не маглі бачыць, якія бюлетэні за каго ў якую кучку складваліся.

Нягледзячы на ўсе перашкоды, якія я вам пералічыў, назіранне ўсё-такі адбылося: сёння мы маем мора розных матэрыялаў, і колькасць складзеных актаў налічвае тысячы. Усё гэта будзе падсумаванае і пакладзенае на стол і адміністрацыі, і Цэнтрвыбаркаму, і грамадскім аб'яднанням. А ўжо потым гэтыя матэрыялы няхай ідуць куды хочуць – не мы мусім абвяргаць ці пацвярджаць звесткі, яны павінны браць адны і другія звесткі, рабіць для сябе высновы.

***— Ці валодаеце Вы хоць бы папярэднімі звесткамі па назіранні за выбарамі?***

— Сёння цяжка сказаць. Мы лічым, што ад 25 да 30 працэнтаў, якія мы маем па выніках гэтых выбараў, — яны сфальсіфікаваныя. І гэта ўсё рабілася падчас датэрміновага галасавання. Зафіксаваны шэраг выпадкаў, калі скрыні для датэрміновага галасавання вывозіліся з тэрыторыі выбарчых участкаў; калі на скрынях для датэрміновага галасавання былі сарваныя і замененыя ленты, якімі яны апячатваліся; цэлы шэраг фактаў, калі з пераноснымі скрынямі выязджалі ў вёску і зганялі ўсю вёску, каб людзі прыходзілі да гэтай скрыні і галасавалі; ніякай таямніцы галасавання – нічога гэтага не было! Таму мы зараз і кажам: мы не можам сёння пацвердзіць звесткі ЦВК. Усе матэрыялы мы пакуль не апрацавалі; але нават калі і апрацуем, то яны будуць базіравацца на падставе копіяў пратаколаў, якія далі выбарчыя камісіі. Нашыя звесткі будуць разыходзіцца з данымі Цэнтрвыбаркама, але наколькі – зараз сказаць мы не можам. Сёння (14 верасня. – **Рэд.**) мы падбілі канчатковыя звесткі па Мінску: за Лукашэнку прагаласавала 56,3%, за Ганчарыка – 31,8, за Гайдукевіча – 3,5%. Я яшчэ раз падкрэсліваю: гэтыя лічбы выклікаюць у нас вялікае непаразуменне, але, тым не менш, звярніце ўвагу, не 66% прагаласавала за Лукашэнку, як дае Цэнтрвыбаркам, а на 10% менш, хаця гэтыя лічбы мы вывелі на аснове афіцыйных пратаколаў. Хачу яшчэ раз звярнуць увагу, што нават па Мінску колькасць датэрмінова прагаласаваўшых склала каля 18% — па Мінску, а нам яны даюць, што датэрмінова прагаласавала – па ўсёй краіне! – 14%. Зразумела, лічбы датэрміновага галасавання па Мінску будуць крыху меншыя, чым у сельскіх раёнах... Хаця і па Мінску ёсць участкі, на якіх датэрмінова прагаласавалі пад 80% выбаршчыкаў – у Ленінскім раёне, дзе пражываюць студэнты (5, 6 участкі). На пачатку наступнага тыдня мы абнародуем гэтыя звесткі. Але яны не бездакорныя, да іх можна ставіцца толькі з вялікай асцярогай.


Фота IREX/ProMedia

***— Мечыслаў Іванавіч! Адзіны кандыдат сцвярджае, што датэрміновае галасаванне па рэспубліцы склала каля 30% і што ў любым выпадку – з перавагай Лукашэнкі ці Ганчарыка – мусіў бы быць другі тур прэзідэнцкіх выбараў. Сапраўды так?***

— Мы пакуль не ведаем канчатковых лічбаў, але лічым, што каля 30, а можа нават і болей працэнтаў складае датэрміновае галасаванне. Лічбы, якія называе Уладзімір Іванавіч Ганчарык, — гэта яго лічбы; мы не можам іх абвергнуць ці пацвердзіць. Але па нашых меркаваннях, па нашых папярэдніх дадзеных, я мяркую, што другі тур галасавання павінен быў быць.

**Рыгор БУЯН**

# Оппозицию будут выводить в коридоры

*Окончание, начало на стр.1*

Говорят, контрразведывательные структуры зафиксировали в предвыборный период немалый процент неблагонадежных среди номенклатуры. Предполагалось, что после выборов к властным рычагам будут допущены, к примеру, ректоры Белгосуниверситета и Академии управления. Однако, как отметил Лукашенко на своей победной пресс-конференции, ректора его подвели, позволив многим студентам голосовать против президента. Так что ни профессору Козулину, ни профессору Бригадину, видимо, карьерные повышения не светят. Впрочем, после инаугурации, которая намечена на 20 сентября, предполагается продолжение ротации руководящих кадров. Как полагают некоторые наблюдатели, черпать новые кадры для вертикали будут, в основном, из прошлой комсомольской братвы, которая всегда была прозрачна для контрразведки. Не секрет, что некоторые из этой категории оказались видными деятелями оппозиции. Так что, видимо, не зря Лукашенко призывал простой люд не беспокоиться, утверждая, что каждый шаг оппозиции фиксируется.

Есть основания полагать, что на этот раз, пытаясь вывести оппозицию в «демократические коридоры», будет обыгрываться тема ее участия в выборах в так называемый союзный парламент. Других же выборов в обозримом будущем не предвидится. В случае участия и тем более возможного избрания в качестве приманки могут предлагать доступ к желанным российским СМИ. В общем, в качестве примера системного оппозиционера будут называть и Зюганова, и Явлинского, да и других думцев. Лучше ведь сидеть в парламенте, чем в тюрьме. Так что предстоящие в будущем году выборы в совместный российско-белорусский парламент будут представлены профессорами коридорным игрокам, как заманчивая перспектива.

В последнее время стали говорить и о перспективе думского спикера Селезнева. Его якобы хотят пересадить то ли в кресло Бородина, то ли сделать спикером того самого союзного парламента. А в коридорах власти стали распространяться слухи, что Путин будто бы хочет прислать в Минск Примакова в качестве посла РФ. Один тяжеловес Черномырдин послан в Киев, а другой нужен в Минске. Не исключено, что эти слухи могут исходить от шефа кремлевской администрации Александра Волошина, которого Примаков очень «любит» еще со времен своего премьерства. Волошин всегда интриговал против Примакова. Оттуда, видимо, исходила и информация о том, что авторство проекта «Машерова-президент» принадлежало Примакову. С трудом верится, чтобы экс-премьера переключили с приднестровской на белорусскую проблему.


Фота Ул. ШЛАПАКА

Если рассуждать о причинах появления Латыпова в качестве руководителя администрации президента, то кроме «свежей крови» для вертикали, создания «коридоров» для оппозиции и обеспечения зарубежных вояжей для Лукашенко можно назвать еще одну причину. Не секрет, что ездившие в Москву претенденты и кандидаты в президенты Беларуси контактировали с людьми из кремлевской администрации, да и с самим А.Волошиным. Теперь с ним, надо полагать, будет активно контактировать Урал Рамдракович. Именно на уровне президентских администраций двух союзников до сих пор отсутствовал для Лукашенко должный уровень взаимопонимания.

**Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ**

# Брифинг по Беларуси

*В Государственном департаменте США 10 сентября состоялся брифинг, на котором основное внимание уделялось ситуации в Беларуси после президентских выборов 9 сентября. Приводим стенограмму части брифинга, касающейся Беларуси. На вопросы отвечает Филипп Рикер.*

***— Мне хотелось бы спросить, собираетесь ли вы поздравить президента Лукашенко, который был переизбран на второй срок?***

— Давайте поговорим о Беларуси и о выборах, которые там проходили, после чего я попробую в письменном виде сформулировать свой комментарий по окончании нашего брифинга. Как вы, наверное, знаете, в заявлении ОБСЕ, чья международная миссия наблюдения следила за проведением голосования 9 сентября, отмечены серьезные нарушения и вмешательство в процесс белорусских властей.

Сегодня международная миссия наблюдения пришла к выводу, что избирательный процесс «не соответствовал требованиям ОБСЕ по проведению демократических выборов». К сожалению, ни одна из стадий избирательного процесса не может считаться ни прозрачной, ни справедливой. Лукашенко использовал внешнюю видимость для обеспечения собственной бессмысленной победы.

Соединенные Штаты солидарны с выводами ОБСЕ о недемократичности избирательного процесса. Выборы не были ни свободными, ни справедливыми и потому не могут быть признаны как таковые международным сообществом. Белорусские власти продемонстрировали полное неуважение принципов демократии и прав человека во время проведения выборов путем предотвращения прозрачности процесса и инициирования кампании запугивания. Они затянули по времени и помешали участию в процессе международных и внутренних наблюдателей, устроили гонения на представителей оппозиции и независимых журналистов, конфисковали независимые предвыборные материалы и газеты и предотвратили процесс параллельного подсчета голосов, таким образом всерьез поставив под сомнение официальные итоги выборов.

Изоляция Беларуси является результатом политики, проводимой режимом Лукашенко. Мы сожалеем, что белорусские власти не сумели путем проведения свободных и справедливых выборов сделать шаг от международной изоляции навстречу Европе и международному сообществу. Соединенные Штаты проведут консультации со своими европейскими партнерами и примут меры по продвижению гражданского общества и демократии на Беларуси. Как вам известно, президент Буш ясно дал понять его видение Европы – цельной, свободной и мирной. Беларусь и ее люди могут и должны стать частью этой Европы, поэтому Соединенные Штаты призывают белорусов пойти путем демократии и свободного рынка.

***— Собираетесь ли вы объявить об отзыве своего посла прямо сейчас или будете ждать, пока его вышвырнут вон?***

— Я полагаю, что посол Козак остается в Минске, и к этому мне пока нечего добавить.

***— Но вы говорите, что их поведение – вы использовали слово «признание» – я имею в виду запугивания, сфальсифицированные выборы и т.д. поставили под большой вопрос признание этих выборов. Если же вы не признаете результатов выборов, то как вы можете иметь дело с этим правительством?***

— Этот вопрос мы еще будем обсуждать с нашими коллегами из ОБСЕ и европейскими союзниками. Мы не признаем эти выборы как свободные и справедливые. В настоящий момент мы с нашими партнерами по ОБСЕ рассматриваем те необходимые меры и шаги, которые мы должны предпринять. Мы будем и впредь призывать режим повернуть на путь демократии, как я только что отметил в своем выступлении. Права человека и социально-экономические реформы проблема номер один в этой стране.

Беларусь не успела впрыгнуть в лодку, которая взяла курс на демократию. Они опоздали, хотя народ Беларуси и заслуживает быть частью Европы. Они должны быть в Европе. Именно об этом мы заявляли, и именно там мы хотим видеть Беларусь.

Таким образом, режим существует изолированно от остальной Европы, международного сообщества и в действительности он живет в прошлом. Они живут и удерживают власть методами, которые можно считать пережитками даже не прошлых десятилетий, а прошлого века, по крайней мере, мы на это надеемся.

***— Можно ли с достаточной степенью уверенности утверждать, что представители Соединенных Штатов не будут присутствовать на церемонии инаугурации президента Лукашенко? С какими проблемами вам предстоит еще разбираться?***

— На данный момент, я полагаю, нам необходимо провести консультации с нашими партнерами по ОБСЕ. Мы обсудим с ними те меры, которые должны быть приняты. Далее... Мы помогали Беларуси, как вы знаете, путем оказания неполитического содействия проведению свободных и справедливых выборов. Это включает в себя предоставление грантов неправительственным организациям, организацию агитационной кампании и внутреннего наблюдения за выборами, небольшие гранты и сдачу оборудования в аренду независимым СМИ. Помощь была неполитической и имела своей целью оказание содействия Беларуси в соблюдении ею стандартов ОБСЕ. Иными словами, мы рассматривали ситуацию не только и не столько через призму установленных критериев ОБСЕ по оценке свободных и справедливых выборов, но и с точки зрения демократических инициатив.

***— Будет ли принято что-либо в двустороннем, дипломатическом порядке?***

— На данный момент ничего конкретного сказать не могу, кроме того, что наша поддержка была двусторонней. И она будет оставаться таковой. Однако, мы также собираемся, как это уже происходило в других ситуациях, советоваться с ОБСЕ по поводу тех мер, которые мы должны предпринять вместе с другими членами ОБСЕ и представителями европейского сообщества.

***— То есть вы не планируете никаких двусторонних...***

— Может быть. Пока же мы пересмотрим все детали. На настоящий момент мне нечего добавить.

***— Вернемся к нашему послу. На прошлой неделе ему пригрозили, что официальный Минск вышвырнет его из страны. Он подвергался преследованиям? Можете ли вы рассказать, как обращались с нашим послом, принимая во внимание нашу критику выборов?***

— Я не слышал, чтобы он лично подвергался гонениям. Оставим в стороне риторику – посол все еще на своем месте. Он участвовал в нашей работе и сообщал нам о ходе выборов, поэтому мы находимся с ним в тесном контакте.

***— Разве Соединенные Штаты не желают отозвать его до того, как его выдворят из страны?***

— Не думаю, что на данный момент у нас есть какие-либо планы на этот счет. Нашей целью по-прежнему является улучшение жизни Беларуси – государства и нации.

**Хартыя'97**

ЕЎРАСАЮЗ

# Неадпаведна стандартам АБСЕ

Еўрапейскі Саюз далучаецца да заключэння, зробленага місіяй міжнароднага абмежаванага назірання на выбарах прэзідэнта Беларусі 9 верасня, і выказвае шкадаванне наконт таго, што гэтыя выбары не адпавядалі дэмакратычным стандартам АБСЕ. Такая заява прынятая 14 верасня ў Брусэлі кіраўніцтвам Еўрапейскага Саюза.

У дакуменце, у прыватнасці, гучыць шкадаванне ў сувязі з пераследам прадстаўнікоў беларускай апазіцыі, унутраных назіральнікаў, незалежных СМІ і няўрадавых арганізацыяў.

Што да далейшых узаемаадносінаў ЕС і Беларусі, то, як гаворыцца ў заяве, яны шмат у чым залежаць ад павагі да правоў чалавека і прагрэсу ў дэмакратызацыі краіны.

ЕС выказвае надзею на тое, што Беларусь абярэ курс на палітычную лібералізацыю, павагу да правоў чалавека і вяршэнства закона. Еўрапейскі Саюз будзе працягваць падтрымку дэмакратычных змяненняў і праводзіць кансультацыі з прадстаўнікамі ўсіх палітычных сілаў Беларусі, калі беларускі бок гатовы ісці ў гэтым жа кірунку. «Мы падтрымліваем Кансультацыйна-назіральную групу АБСЕ, якая настойвае на такіх змяненнях», — гаворыцца ў заяве Еўрасаюза.

Да гэтага дакумента далучыліся такія асацыіраваныя члены ЕС, як краіны Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, Кіпр, Мальта, Турцыя, а таксама дзяржавы — члены эканамічных арганізацыяў Еўрапейскага Саюза.

**Наталля КУЛАГІНА**

